Зберагчы і Павялічыць
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Дзедзіч
№2 (71) • ЛЮТЫ 2012

Увага!

*"Дзедзіч" пачынае цыкл відэапраглядаў пад назвай "Свабода". Тэлефануйце: (029) 208-79-33.*

# НЕ ЗАСЯЛІЛІ Ў ІНТЭРНАТ?


Фота: Eduard STELMAKH

## ГОДЗІК ДАВЯДЗЕЦЦА ПАЧАКАЦЬ

**Рэктар БрДУ: «ВАСТРЫНЯ ПРАБЛЕМЫ БУДЗЕ ЗНЯТАЯ».**

**Актывісты «Дзедзіча» атрымалі адказ на свой зварот з патрабаваннем палепшыць сітуацыю з найманнем жылля. З адказу адміністрацыі БрДУ вынікае, што 49% іншагародніх студэнтаў БрДУ забяспечаны месцамі ў інтэрнатах. Рэктар БрДУ з разуменнем успрымае складанасці з найманнем жылля тымі, каму не пашанцавала.**

Нагадаем, што напачатку гэтага года берасцейскія студэнты збіралі подпісы пад зваротам да мясцовых уладаў аб спрашчэнні працэдуры выплаты іншагароднім студэнтам кампенсацый за найманне жылля. Таксама студэнты патрабавалі павялічыць суму кампенсацый. Зварот быў накіраваны ў берасцейскі гарвыканкам, які ў хуткім часе паведаміў, што не мае адпаведных кампетэнцый і перанакіраваў яго ў Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт.

9 лютага 2012г. рэктар БрДУ М.Э. Часноўскі і кіраўнік студэнцкага прафкама І.А. Жак далі адказ. З яго вынікае, што кіраўніцтва ўніверсітэта з разуменнем ставіцца да гэтай праблемы, таму як зараз у інтэрнатах пражываюць толькі 49% іншагародніх студэнтаў.

Берасцейскі ўніверсітэт абяцае вырашыць гэтую праблему да 2013 года, калі ў эксплуатацыю ўвойдуць новыя інтэрнаты на вул. Леніна і вул. Пушкінская. "Пасля гэтага вастрыня праблемы атрымання месца ў інтэрнаце будзе ў асноўным знятая", - тлумачыцца ў лісце.

Акрамя гэтага, рэктарат і прафкам БрДУ цалкам падзяляюць думку студэнтаў "аб невысокай эфектыўнасці сучаснага механізму частковай кампенсацыі студэнтам", пра што кіраўніцтва ўніверсітэта "ужо інфармавала Міністэрства адукацыі". Самастойна змяніць гэты механізм берасцейскі ўніверсітэт не можа.

Як адзначыў адзін з ініцыятараў напісання звароту, з адказу бачна, што адміністрацыя сапраўды займаецца праблемай кампенсацый іншагароднім студэнтам за найманне жылля і вядзе працу па яе вырашэнні. Актывісты спадзяюцца, што да 2013 года новыя інтэрнаты сапраўды прымуць першых жыхароў. Хаця, напрыклад, дзверы інтэрната на вуліцы Леніна абяцаюць адчыніць ужо не першы год.

**dzedzich.org**

# У БрДУ ПЕРАЛІЧЫЛІ КОШТЫ ЗА НАВУЧАННЕ

**Адміністрацыя Берасцейскага ўніверсітэту абвясціла пра салíднае зніжэнне першапачаткова заяўленага кошту навучання пасля абурэння платнікаў і публікацый у СМІ.**

Як паведамляе "Брестская газета", на мінулым тыдні, калі кошты павысіліся, у рэдакцыю газеты патэлефанаваў студэнт-платнік і паведаміў, што падаражэнне склала не 29%, як рэкамендавала Міністэрства адукацыі, а нашмат больш.

У той жа дзень рэктар універсітэта ў тэлефоннай гутарцы аспрэчыў гэтую інфармацыю, заявіўшы, што кошт навучання вырас не больш чым на 29%, а на некаторых спецыяльнасцях выпускных курсаў нават менш. І вось праз тыдзень студэнтам назвалі новыя лічбы.

«Сёння нам паведамілі, што кошт навучання зніжаны на 994 тысячы, – паведаміў «БГ» 15 лютага студэнт, які раней распавёў пра спрэчныя кошты. – Як даў зразумець у прыватнай гутарцы чалавек з кіраўніцтва ўніверсітэта, кошт па ВНУ паменшыўся амаль на мільён з-за шматлікіх зваротаў абураных студэнтаў і публікацый у прэсе».

**Паводле: b-g.by**

## У НУМАРЫ:

## АДНЫМ РАДКОМ

### У ПРАГРАМЕ "АПАНТАНЫЯ" ВЫЙШАЎ ФІЛЬМ ПРА "ДЗЕДЗІЧ"

**Сярод праграм тэлеканала «Белсат» з цыкла "Апантаныя", што прысвечаны грамадзянскай актыўнасці ў Беларусі, з'явілася відэа і пра Агенцтва рэгіянальнага развіцця "Дзедзіч".**



Цыкл відэарэпартажаў "Апантаныя" прысвечаны грамадскім арганізацыям і проста актыўным, ініцыятыўным людзям, якія не апускаюць рук у складаных умовах сённяшняй Беларусі.

Увагу аўтараў гэтага цыклу, Васіля Лепеша і Магды Пытляхоўскай, прыцягнула і берасцейскае Агенцтва рэгіянальнага развіцця "Дзедзіч", рэпартаж пра які з'явіўся 7-й часткай цыклу.

Рэпартаж прысвечаны ўсім накірункам дзейнасці "Дзедзіча" і расказвае пра мерапрыемствы, акцыі арганізацыі, сярод якіх кампанія "За Вела-Берасце", зборы подпісаў, выданне бюлетэня "Дзедзіч", правядзенне семінараў, будаўніцтва Дома еўрапейскіх сустрэч у Залессі і шмат іншага. Але лепш адзін раз пабачыць, чым сто раз паслухаць, таму – калі ласка, запрашаем на сайт dzedzich.org. Глядзіце на галоўнай старонцы сайта ў правым слупку.

Як адзначае адзін з аўтара праекта Васіль Лепеш:

– Нас стаміла беларуская шэрая штодзённасць. Усё такое нецікавае, неэфэктыўнае, неактыўнае, бессэнсоўнае, марнае. А пазітыву вельмі шмат, і пазітыўныя людзі з гэтай шэрасці яшчэ больш выбіваюцца. У каляровай Еўропе цяжка быць каляровым. А ў Беларусі вельмі проста, дастаткова апрануць нешта чырвонае і выйсці на вуліцу. І ты ўжо адрозніваешся. А калі ты яшчэ нешта робіш пазітыўнае, станоўчае, карыснае, ты становішся яшчэ больш бачным у наваколлі. Гэта ўсё нас і матывавала для здымкаў.

**dzedzich.org**



# НАРОДНЫЯ НАВІНЫ

**Даведаўся пра нешта цікавае для берасцейскай моладзі? Цяпер у цябе ёсць магчымасць распавесці пра гэта наведвальнікам нашага сайта!**

**Ты жывеш на Берасцейшчыне, вучышся ці працуеш, атрымліваеш інфармацыю з сотняў крыніц штодня. Нейкія навіны датычацца толькі цябе ці тваіх блізкіх, а нейкія будуць цікавыя сотням тваіх аднагодкаў.**

Калі ты:

- стаў сведкам надзвычайнага здарэння;
- даведаўся пра цікавае мерапрыемства, якое адбудзецца ў бліжэйшы час;
- зафоткаў прыкольны момант на сваю мабілу;
- схадзіў на канцэрт ці выставу і хочаш падзяліцца ўражаннямі;
- збіраешся ў вандроўку і хочаш запрасіць паболей людзей, каб было весялей;
- твая каманда перамагла ў школьным ці ўніверсітэцкім спаборніцтве —

**СМЕЛА ДАСЫЛАЙ ІНФУ НАМ!!!**

Цікавая навіна павінна адказваць на 6 пытанняў: Хто? Што? Дзе? Калі? Як? Чаму?

Напішы падрабязна, што адбылося ці адбудзецца, адкажы на гэтыя 6 пытанняў, дадай, калі ёсць, фоткі ці відэа, і сотні берасцейцаў даведаюцца пра гэта. Навіна з'явіцца на сайце цягам 2-х гадзін.

Каб даслаць сваю інфу, пераходзьце па спасылцы: http://dzedzich.org/wp/2012/01/08/narodnyya-naviny, альбо проста зайдзіце на dzedzich.org і знайдзіце банер «Народныя навіны».

**dzedzich.org**




# У МЕНСКУ МІЛІЦЫЯ "АРЫШТАВАЛА" ЦАЦКІ

**Цацкі пратэставалі на плошчы Незалежнасці супраць А. Лукашэнкі. Пасля патрабавання «ШОС!» яны былі затрыманыя міліцыяй.**




Моладзь правяла яркую акцыю на Плошчы Незалежнасці ў Менску. На клумбе каля аўтобуснага прыпынку яны пасадзілі мяккія цацкі з плакатамі ў руках. Цацачныя мядзведзікі і сабачкі патрабавалі свабоду прэсы, вызвалення палітвязняў і нават ШОС!

«Плюшавыя пратэстанты былі затрыманыя міліцыяй. Верагодна, адміністратыўныя справы супраць іх заводзіцца не будуць», — адзначаюць арганізатары акцыі.

**nn.by**

# ОБЩЕСТВО НА ГРАНИ РАСКОЛА

## И ВСЁ ИЗ-ЗА ХОККЕЯ

**Политически активная часть белорусов не может сойтись во мнении: нужно ли выступать за перенос из страны чемпионата мира-2014 по хоккею? Почему одни хотят, чтобы их оставили без топ-турнира, а другие утверждают, что «такой хоккей» нам нужен?**

Напомним, в мае 2009г. на конгрессе Международной федерации хоккея (IIHF) Беларусь впервые получила право стать хозяйкой чемпионата мира по хоккею – в 2014г. Но события последних президентских выборов могут кардинально изменить ситуацию.

В мае 2011г. Европарламент призвал IIHF не проводить чемпионат мира в Беларуси, пока Александр Лукашенко «не выпустит всех политических заключенных». В январе 2012г. президент США утвердил новую редакцию Акта о демократии в Беларуси, где Соединенные Штаты также призвали IIHF отменить решение о проведении чемпионата мира в Беларуси.

IIHF на эти призывы пока не реагирует. По словам его президента Рене Фазеля, международная федерация «находится в стороне от политических дискуссий». Примеров переноса турниров такого уровня по политическим мотивам также не было. Но точка в этом вопросе, судя по активности сторонников отмены чемпионата мира в Беларуси, похоже, еще не поставлена.

### АРГУМЕНТЫ **ЗА** ПЕРЕНОС ЧМ-2014 ИЗ БЕЛАРУСИ

«Проведение чемпионата мира по хоккею в то время, когда в тюрьмах Беларуси находятся десятки политзаключенных, в том числе два кандидата в президенты, когда в стране становятся нормой избиение мирных граждан, пытки, психологическое и физическое насилие, являются прямой поддержкой диктаторского режима Лукашенко» (участники прошедшего 19 января в Минске круглого стола по освобождению белорусских политзаключенных).

«Идея интересная. Это и не экономические санкции, и по народу они не ударят. Зато ударят по главному хоккеисту» (golos_razuma, forums.tut.by).

«Что значит «спорт вне политики»? Это примерно тоже самое, как твой сосед истязает свою семью, морит голодом и унижениями, а ты сидишь у него на кухне, разливаешь с ним белую, нарезаешь салко, смотришь хоккей по телевизору...» (гадски папа, date.bs).

«Я, белорус, уже лишен возможности посещать концерты любимых белорусских же музыкальных коллективов. И никто со мной не считается, никому дела нет до того, что политика – это одно, а творчество, пускай и не угодное власти, – совсем другое… Так что пускай на своей шкуре прочувствует, что это такое» (Beaver, forums.tut.by).

«“Дождя инвестиций” из-за границы мы не дождемся, все за свой счет, в т.ч. и гостиницы, которые будут пустовать. Загляните в минские больницы, у вас совести хватит больным посмотреть в глаза? Если в стране политический беспредел и гиперинфляция, никакой ЧМ не принесет радости жителям страны. ЧМ ради мечты одного человека – слишком дорогая жертва для страны» (Goga, Хартия-97).

«В Южно-Африканской республике, пока там был апартеид, не проводилось ни одно международное соревнование. И это тоже помогало исправлению дикой социальной несправедливости» (Александр Бухвостов, профсоюзный активист, «Белорусский партизан»).

«Перенос или угроза переноса чемпионата мира может серьезно повлиять на действия режима. Проведение турнира Лукашенко будет позиционировать как свою личную победу, признание того, что Беларусь под его руководством идет правильным путем. Если этот чемпионат в Беларуси состоится, это будет пляской на костях» (Никита Лиховид, бывший политзаключенный).



**Типичный пример официальной пропаганды, связанный с хоккеем**

### АРГУМЕНТЫ **ПРОТИВ** ПЕРЕНОСА ЧМ-2014 ИЗ БЕЛАРУСИ

«Не ведаю як вам, але мне вельмі хочацца схадзіць з дзіцем і паглядзець чэмпіянат» (Zeelon, forums.tut.by).

«Я не бачу, каб перанос чэмпіяната свету па хакеі неяк мог выправіць цяперашнюю сітуацыю. Акрамя таго, памятаю з дзяцінства, як на Алімпіяду-84 у Лос-Анджэлесе ў складзе футбольнай савецкай каманды павінны былі паехаць некалькі гульцоў мінскага «Дынама», за якое я тады хварэў. Але СССР адмовіўся ад удзелу ў Алімпіядзе, і я не змог пабачыць любімых футбалістаў на Алімпіядзе. Мне было вельмі непрыемна. Не хацелася б, каб у падобнай сітуацыі апынуліся сённяшнія дзеці» (Алесь Чигирь, общественный активист, Бобруйск).

«Выступать за запрет на проведение ЧМ по хоккею – это, в первую очередь, свинство и плевок в сторону себе подобных людей, которых, избавив от этого события, сделают еще больше пострадавшими от жЭстачайшЭго политического режима» (Kvetachka, charter97.org)

«Опять кто-то пытается смешать спорт и политику! Никаких причин лишать наших болельщиков такого зрелища я не вижу. Они его тоже давно заслужили» (Михаил Грабовский, дважды лучший хоккеист Беларуси, «Прессбол»).

«Нашы хлопцы, паказаўшы нядрэнныя вынікі ў папярэднія гады, заслужылі, каб гэты чэмпіянат прайшоў і на іх роднай зямлі» (аматар хакея, charter97.org).

«Независимо от того, кто у власти, люди имеют право на гордость за свою страну хоть в чем-то…» (абв...я, forums.tut.by).

«Дается единственный шанс показать иностранцам реалии жизни в Беларуси! А то они знают ее только через интернет,или же поставлена задача любыми способами не допустить приезда иностранцев!? Зачем?! Пусть заграница сама увидит как здесь дела» (Беларус, charter97.org).

«Общество на грани раскола.... и все из-за хоккея» (Army of ISRAEL, forums.tut.by).

«Безумоўна, чэмпіянат свету па хакеі будзе выкарыстаны Лукашэнкам і дзеля сваёй асабістай папулярнасці. Аднак для краіны гэта вельмі значная падзея, якая будзе сведчыць пра Беларусь як пра незалежную, самастойную дзяржаву, пра яе больш шырока даведаюцца ў свеце. У дадзеным выпадку гэта нашмат важней» (Алексей Янукевич, председатель Партии БНФ).

**А як думаеш ты, шаноўны чытач?**

**Пішы на dzedzich@tut.by, і мы абавязкова выкладзем твой пункт гледжання на старонках «Дзедзіча».**

**Паводле: gazetaby.com**

## АДНЫМ РАДКОМ

### “СПЯВАЙ ПА-БЕЛАРУСКУ!”

**20 студзеня ў межах кампаніі “Наша мова” Агенцтва рэгіянальнага развіцця “Дзедзіч” правяло акцыю “Спявай па-беларуску!”.**



Акцыя адбылася на галоўнай пешаходнай вуліцы горада. Актывісты «Дзедзіча» спявалі вядомыя беларускія песні і запрашалі мінакоў далучацца. Першапачаткова ўдзельнікаў было не шмат, але літаральна праз некалькі хвілін сітуацыя змянілася. Да актывістаў “Дзедзіча” пачалі далучацца мінакі. Некаторыя з іх не проста атрымлівалі асалоду ад песень на беларускай мове, але яшчэ і спявалі разам.

Ахвотным паспяваць валанцёры раздавалі адмыслова падрыхтаваныя тэксты песень. Гучалі і вядомыя моладзі «Тры чарапахі», і больш папулярныя ў старэйшага пакалення «А я лягу-прылягу» «Песняроў». Імправізаваны канцэрт цягнуўся 30 хвілін.

### МУЛЬТ-ФЭСТ ПРАЙШОЎ У БЕРАСЦІ

**У Берасці адбыўся Фэст беларускіх мультыплікацыйных фільмаў. 21 студзеня АРР “Дзедзіч” ладзіў паказ беларускіх мультфільмаў, якія прысвечаны тэматыцы Свабоды.**




Фэст адбыўся ў рамках традыцыйных ужо кінапраглядаў у “Дзедзічы”, што адбываюцца кожную суботу.

На гэты раз арганізатары падрыхтавалі шэраг мультфільмаў беларускай вытворчасці. Наведвальнікі станоўча паставіліся да такой змены рэпертуару. Тым больш, што былі прадстаўлены стужкі не толькі “Беларусьфільма”, але і асобных “мадэрновых” аўтараў.

Спектр таксама парадваў разнастайнасцю: ад пазітыўных і легкіх “Беларускіх прымавак” да мульцяшнага шматзначнага трылера “Lollipop”. Дзяўчатам больш за ўсё спадабаўся «Заяц-сват», а хлопцы ацанілі неадназначнасць і задуменнасць “Лафертавай макоўніцы”.

Нагадаем, што кінапрагляды на тэму Свабоды адбываюцца кожную суботу ў 16-00 на офісе АРР “Дзедзіч” (г. Берасце, вул. Кірава, д. 60, кв. 1). Запрашаем!

**dzedzich.org**

# МЯНЕ АДЛІЧЫЛІ З УНІВЕРА

**Пасля майго затрымання і дзесяці сутак на Акрэсціна не было сумневаў – з універсітэта мяне выключаць. Але нешта пайшло не так...**

Падставы так думаць былі больш чым сур'ёзныя – ужо падчас самай першай сустрэчы з адміністрацыяй факультэта ўсім далі зразумець, што тыя, хто не падтрымлівае палітыку дзяржавы, вучыцца тут не будуць. Гэта былі не пустыя словы: яшчэ да паступлення я ведаў гісторыю хрысціянскай дэмакраткі Ганны Антонавай. Яе выключылі з майго факультэта ў 2008 годзе – проста за тое, што яна падала заяўку на правядзенне пікета ў падтрымку тады яшчэ палітвязня Аляксандра Казуліна.

Праславіўся мой факультэт і падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў – намесніца дэкана па выхаваўчай працы Ганчарова-Цынкевіч абяцала ўсім дадатковы выхадны дзень у тым выпадку, калі 90% студэнтаў прагаласуе датэрмінова. Але ці то студэнты не паслухаліся, ці то спадарыня Ганчарова-Цынкевіч схлусіла – ніякага дадатковага выхаднога дня не было.

На наступны дзень пасля вызвалення з Акрэсціна я ў першую чаргу накіраваўся ва ўніверсітэт. На факультэце мяне прынялі цёпла – у мой бок, на дзіва, не было сказана аніводнага злога слова. У дэканаце зрабілі копію рашэння суда і папрасілі напісаць тлумачальную запіску. Пасля гэтага мне паведамілі, што я магу здаваць залікі.

Такое развіццё падзей магло б вельмі здзівіць мяне, калі б не адна акалічнасць. Падчас адсідкі на Акрэсціна мяне выклікалі на размову да аднаго чалавека. Ён прадставіўся кімсьці накшталт «інспектара па справах моладзі». Доўга распытваў пра акалічнасці маёй справы, пра тое, ці ўдзельнічаю я ў палітычных працэсах. Пасля вызвалення абяцаў патэлефанаваць. Асобую ўвагу акцэнтаваў на тым, што ён патурбуецца, каб ва ўніверсітэце ў мяне не ўзнікла праблем – мой арышт якраз прыйшоўся на час заліковай сесіі.

Варта адзначыць, што троху раней гэты ж чалавек прысутнічаў у Доме правасуддзя, дзе 20 снежня мы з іншымі затрыманымі чакалі разгляду нашых спраў. Ходзячы па калідоры ў міліцэйскай форме, ён распытваў студэнтаў пра акалічнасці іх навучання – відаць, выбіраў «ахвяру».

І што цікава, затрыманых са мною дзяўчат з майго факультэта выклікалі да прарэктара па выхаваўчай працы, а мне пашчасціла ўсяго толькі патлумачыць сітуацыю дэкану, які адрэагаваў на ўсё досыць спакойна.

Я паспяхова здаў пяць залікаў за чатыры дні. Патрапіць на першы іспыт не паспеў, а на другім усё пайшло-паехала. Падчас іспыту ў аўдыторыю завітаў намеснік дэкана па вучэбнай працы Шумчык, які папрасіў выкладчыцу тэрмінова адлучыцца для размовы. Я атрымаў за экзамен нездавальняючую адзнаку.

Праз пэўны час мне давялося сустрэцца з тым самым чалавекам, які гутарыў са мной на Акрэсціна. Я думаў, што ён прапануе падпісаць паперу аб супрацоўніцтве, а ў выпадку адмовы будзе пагражаць адлічэннем.

Але гэтага не адбылося. Ён доўга гаварыў на розныя тэмы, цікавіўся сітуацыяй з вучобай. Добрае веданне сітуацыі ў краіне адразу выдала ў ім спецслужбіста.




Лейтматывам размовы было абмеркаванне сітуацыі з маім навучаннем: маўляў, калі будуць нейкія праблемы – тэлефануй, я табе абавязкова дапамагу.

Праз некалькі дзён прыйшоў час трэцяга іспыту. І ў мяне не было сумневаў наконт паспяховай здачы. Пра маё затрыманне і арышт выкладчыца даведалася ледзь не першай, і адмыслова патэлефанавала адной з дзяўчын, з якімі мяне затрымлівалі. Выказала словы падтрымкі, нехта казаў, што нават абяцала «паставіць экзамен аўтаматам».

Але падчас іспыту я пачуў: «Я не магу паставіць…» Ужо потым некалькі чалавек расказвалі, што бачылі яе ва ўніверсітэце заплаканую, але ніхто не мог даведацца, у чым прычына.

Па словах намесніка дэкана па вучэбнай працы, у аўторак, 17 студзеня, мяне афіцыйна адлічылі з фармулёўкай «за акадэмічную непаспяховасць».

**Мікіта БРОЎКА, vk.com/alkari**

# «ЧЕРНЫЕ СПИСКИ» РЕКТОРОВ – НЕ МЕСТЬ,

## а инструмент прекращения нарушения гражданских прав

**Само существование такого списка – симптом серьезных нарушений гражданских и академических прав в системе высшего образования. Что предпримет общественный Болонский комитет, как это повлияет на высшее образование Беларуси и её вступление в Болонский процесс?**

**ЗАЯВЛЕНИЕ
общественного Болонского комитета
о механизме исключения ректоров из списков
лиц, которым запрещен въезд в ЕС**

В последнее время в СМИ активно обсуждается инициатива «Офиса за демократическую Беларусь» (Брюссель) о сокращении списков граждан Беларуси, которым запрещен въезд в страны Европейского Союза. В частности, вносится предложение об исключении из этого списка ректоров белорусских вузов.

Общественный Болонский комитет (Беларусь) считает необходимым выразить свое отношение к этой инициативе, поскольку исключение ректоров вузов из такого списка напрямую влияет на реализацию разработанных нами предложений по включению Беларуси в Европейское пространство высшего образования.

Общественный Болонский комитет не рассматривает «черные списки» чиновников, которым закрыт въезд в страны ЕС, как пожизненное наказание для организаторов и исполнителей репрессий против участников мирных протестов, политиков и активистов. Цель таких санкций – не месть, а прекращение нарушения гражданских прав.

Ректоры белорусских вузов, которые попали в этот список, ответственны не просто за преследование студентов и преподавателей, реализующих свои права на свободу слова, собраний, ассоциаций, но они ответственны за повторную виктимизацию, или повторное наказание жертв политических репрессий. Уже подвергнутые административному наказанию молодые люди отчисляются из вузов или увольняются с работы, лишаясь своих прав на образование или труд. По юридическим меркам это откровенный произвол. Руководители вузов, в которых практикуются такие противоправные действия, вполне заслуживают наказания.

> Существование «черного списка» ректоров — это симптом серьезных нарушений гражданских и академических прав в системе высшего образования. Высшая школа Беларуси превратилась в инструмент политических репрессий против инакомыслящих.

Мы констатируем, что систематическое нарушение прав человека в белорусских вузах закрепляет авторитарную систему управления высшей школой, демонстрирует полное непонимание руководителями вузов фундаментальных академических ценностей: университетской автономии и академической свободы.

Пренебрежение этими ценностями мешает сегодня белорусскому высшему образованию включиться в Болонский процесс, стать полноправным членом Европейского пространства высшего образования. Между «черным списком» ректоров и отказом в приеме Беларуси в ЕПВО существует прямая связь.

Мы не считаем, что исключение без всяких условий из списков невъездных ректоров может запустить процесс реформирования высшего образования и привести к решению вопроса о присоединении Беларуси к Болонскому процессу. Условием включения в ЕПВО белорусской высшей школы должны быть реформы, затрагивающие не только ее архитектуру (структуру ступеней образования) или другие технические вопросы, но систему управления вузами, академические права студентов и преподавателей.

Первым шагом, свидетельствующим о переменах, должно быть прекращение политических репрессий и нарушения академической свободы в вузах. Исключение ректоров из «черных списков» должно напрямую зависеть от положения дел в соответствующем вузе.

Общественный Болонский комитет предлагает принимать рекомендации об исключении ректоров из списков невъездных в ЕС, равно как и дополнения этого списка новыми фамилиями на основе результатов мониторинга соблюдения академических и гражданских прав в каждом отдельном вузе Беларуси.

Мы планируем в сотрудничестве с правозащитными организациями создать сеть обсерваторий в университетских центрах страны для сбора информации о состоянии академических прав в вузах Беларуси, организовать работу своеобразного «академического трибунала» – группы авторитетных экспертов для корректной юридической квалификации каждого факта репрессий, учредить юридическую клинику для помощи жертвам репрессий, регулярно представлять доклады о состоянии академических прав в вузах нашей страны.

Общественный Болонский комитет считает необходимым подчеркнуть, что принятие политических решений по вопросу исключения из списков ректоров вуза или включения в него новых лиц должно проводиться публично и согласованно в рамках общепринятых демократических процедур.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Грамадскі Балонскі камітэт быў створаны на базе Нацыянальнай платформы Грамадзянскага форуму Усходняга партнёрства. Мэтай камітэта з'яўляецца *распрацоўка для нашай краіны дарожнай мапы інтэграцыі беларускай вышэйшай адукацыі ў Балонскі працэс*. У грамадскі Балонскі камітэт увайшлі прадстаўнікі экспертнай супольнасці і шэрагу грамадскіх арганізацый, у тым ліку і «Дзедзіч».

# ШТО ЧАКАЕ СТУДЭНТАЎ У 2012г.?

**Змагацца са спісваннем «аж да адлічэння», а за хабар — да турмы для студэнтаў абяцалі ў новым годзе беларускія чыноўнікі.**

**Акрамя гэтага, беларускіх студэнтаў у 2012 годзе чакае ўзняццё платы за навучанне і стыпендый, размеркаванне па новых правілах і міжнародны дыплом, рост колькасці аднакурснікаў з Кітаю і пісьмовыя іспыты. Мы ўгледзеліся ў некаторыя найбольш амбітныя планы, што яшчэ збольшага не ўвасобіліся на паперы, але аб намеры ажыццявіць якія не раз казалі людзі з Мінадукацыі.**

#### СТЫПЕНДЫІ ВЫРАСТУЦЬ, ПЛАТА ЗА НАВУЧАННЕ – ТАКСАМА.

У 2012-м беларускі ўрад, верагодна, працягне «добрую» традыцыю мінулага году і чарговы раз забяспечыць умовы для ўзняцця платы за навучанне. Гэтым разам рост расцэнак можа аказацца падобным да папярэдніх узняццяў — у сярэднім на 20–25%. Гэта значыць, што за магчымасць вывучаць прыродазнаўства ў БДУ прыйдзецца плаціць да 11.7 мільёнаў у год, а за курсы ў Акадэміі кіравання — каля 9.6 мільёнаў.

Аднак падвышэнне тарыфнай стаўкі пацягне за сабой і рост студэнцкіх стыпендый. Мінімальныя выплаты навучэнцам ужо ў лютым верагодна ўздымуцца да 380 тысячаў.

#### РАЗМЯРКУЮЦЬ УЖО НА ЧАЦВЁРТЫМ КУРСЕ

З новага году студэнты змогуць адчуць усе «перавагі» Кодэксу аб адукацыі. Паводле яго размяркоўваць будуць нават пасля платнага, калі студэнт болей за палову тэрміну навучання вучыўся за кошт дзяржавы. Прымусова накіруюць на працу і пасля платнай магістратуры, калі да яе студэнт вучыўся за бюджэтныя сродкі. Гэта бязмежна ўскладніць жыццё тым, хто пажадае вучыцца пасля атрымання дыплому спецыяліста за мяжой.

Сама працэдура размеркавання таксама зменіцца. Цяпер размяркоўваць бясплатнікаў будуць на год раней, і не абавязкова ў першую чаргу ў дзяржаўныя ўстановы. Але ў любым разе, меркаванне студэнтаў спытаюць у апошнюю чаргу.

#### СТУДЭНТАЎ МОГУЦЬ ПАЧАЦЬ САДЖАЦЬ ЗА ХАБАР

Беларускія выкладчыкі працягнуць браць хабар. У перадкрызісным 2010-м было зарэгістравана болей за 300 эпізодаў дачы хабару. У 2011-м гучныя карупцыйныя скандалы здараліся ў ВНУ штомесяц.

Намеснік міністра адукацыі Аляксандр Жук неяк даволі жорстка выказаўся з гэтай нагоды, заявіўшы, што пракуратура і міліцыя пакуль не ведаюць, як змагацца з карупцыяй ва ўніверсітэтах. І прапанаваў перакласці віну на студэнтаў:

- Калі студэнты заявілі аб хабары, яны вызваляюцца ад адказнасці, але гэта грубейшае парушэнне правілаў унутранага распарадку, і кіраўнік навучальнай установы мае права іх выключыць», — казаў Жук. На думку намесніка міністра, узмацненне адказнасці студэнтаў, якія даюць хабар, дапаможа палепшыць сітуацыю з карупцыйнымі злачынствамі ва ўстановах адукацыі. Наступным за адлічэннем крокам можа стаць крымінальная адказнасць для студэнтаў.

#### ПРАГРАМЫ СКАРОЦЯЦЬ, КАБ ВУЧЫЦЬ ХУТЧЭЙ

2011 год Міністэрства адукацыі скончыла ў спешнай перапрацоўцы адукацыйных стандартаў пасля заявы Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што ва ўніверсітэце вучаць шмат чаго непатрэбнага.

- Прыкладна на траціну мы навучаем студэнтаў таму, што потым абсалютна не спатрэбіцца ў жыцці, - казаў Лукашэнка ўлетку. - І мы ведаем, тут хаваць няма чаго: у ВНУ многія студэнты асобныя прадметы амаль не вывучаюць ці толькі для таго, каб здаць залік або іспыт, паколькі гэта ім у будучыні не спатрэбіцца.

Такімі вось «непатрэбнымі ведамі», відаць, і ёсць беларуская мова. Менавіта яна аказалася пад пагрозай выкідання з адукацыйных праграм. Замест моўнай падрыхтоўкі студэнтаў у апошні год навучання адправяць на падрыхтоўку працоўную, альбо папросту скароцяць навучанне да чатырох гадоў.

#### ІСПЫТЫ МОГУЦЬ АБАВЯЗАЦЬ ЗДАВАЦЬ ТОЛЬКІ ПІСЬМОВА

Мінадукацыі нечакана вырашыла «рашуча змагацца» са спісваннем на іспытах. Намеснік міністра адукацыі Аляксандр Жук нават прыгразіў адлічэннем тым, хто надумае падглядзець ў шпаргалкі.

- Спісванне падчас атэстацыйных экзаменацыйных мерапрыемстваў трэба разглядаць як грубае парушэнне правілаў унутранага распарадку ці як дысцыплінарны праступак, а парушальніка трэба прыцягваць да дысцыплінарнага пакарання — аж да адлічэння», — казаў Жук у лютым 2011г.

Перамагчы спісванне, а заадно і хабарніцтва Мінадукацыі плануе пераводам усіх іспытаў у пісьмовую форму, а таксама стварэннем адмысловых камісій для іх здачы. То бок у наступную сесію студэнты могуць здаваць іспыт ужо не аднаму выкладчыку, а адразу некальным.

#### КІТАЙСКІХ СТУДЭНТАЎ СТАНЕ БОЛЕЙ

Выправіць цяжкую эканамічную сітуацыю ўрад вырашыў арыгінальным метадам: «агрэсіўным» ростам «экспарту адукацыйных паслугаў», то бок прыцягненнем у краіну як мага болей замежных студэнтаў і іх грошай.

А большая частка замежнікаў у беларускіх універсітэтах прыехалі з Туркменістану і Кітаю. Верагодна, на патэнцыял апошніх і разлічвае Мінадукацыі, калі кажа аб трохразовым росце колькасці замежных студэнтаў — з цяперашніх 10 тысячаў да 30.

- На сусветным рынку адукацыйных паслуг ВНУ трэба працаваць не проста актыўна, а нават агрэсіўна, — піша журналістка БелТА Юлія Ваніна.

А пакуль Мінадукацыі не меней агрэсіўна спрабуе далучыцца да Балонскага працэсу, галоўнай прычынай чаго ёсць, - і гэтага не хавае міністр адукацыі Маскевіч, - павелічэнне колькасці замежных студэнтаў у беларускіх ВНУ.

Фактычна, адмыслова для замежнікаў дзяржава збіраецца будаваць два дзесяткі новых студэнцкіх інтэрнатаў на 20 тысячаў чалавек. Менавіта столькі замежных студэнтаў плануецца прыцягнуць у краіну ў бліжэйшыя гады, якіх, як вядома, прынята засяляць у першую чаргу.

#### МІЖНАРОДНЫ ДЫПЛОМ

А адным з першых крокаў па далучэнні да Балонскай сістэмы стане ўвядзенне ў Беларусі новага ўзору дыплому аб вышэйшай адукацыі, які б супадаў з еўрапейскім. Распрацоўкай узору занята ужо другі год Міністэрства адукацыі.

У новым дыпломе будзе адлюстраваная інфармацыя аб колькасці праслуханых гадзін, адзнаках і крэдытах (ёмістасць кожнага прадмету будзе вымярацца ў еўрапейскай сістэме «крэдытаў»), якія набраў студэнт за час свайго навучання. Увядзенне новага варыянту дыплому спрасціць прызнанне беларускай адукацыі за мяжой.

#### ЗАВОЧНІКАЎ СТАНЕ ЗНАЧНА МЕНЕЙ

Сёлета Міністэрства адукацыі нечакана вырашыла вярнуць «першапачатковы сэнс» завочнай форме навучання і прапанавала скараціць колькасць завочнікаў на 20%.

- Трэба вярнуць першапачатковы сэнс завочнай форме навучання, як навучанню без адрыву ад вытворчасці з мэтай павышэння кваліфікацыі ці атрымання новай спецыяльнасці, — казаў з гэтай нагоды Аляксандр Жук. — На завочную павінны паступаць асобы, занятыя працоўнай дзейнасцю. Таксама, трэба захоўваць разумныя прапорцыі — колькасць завочнікаў не павінна перавышаць 30–40% ад агульнай колькасці студэнтаў ВНУ.

У гэтым годзе ўжо быў троху скарочаны набор на завочнае. Але да дасягнення агучаных мэтаў яшчэ далёка. Наступствы спробы «пазбавіцца» ад завочнікаў (а болей за ўсё іх у прыватных ВНУ) студэнты адчуюць толькі праз некалькі гадоў. Пакуль у беларускіх універсітэтах і інстытутах на завочным вучыцца прыкладна столькі ж студэнтаў, колькі і на дзённым.

**Паводле: generation.by**

# МІХАЛОК РЭАБІЛІТАВАНЫ!

**У словах лідара «Ляпісаў» пракуроры не знайшлі грамадска небяспечнага ўчынку, але вяртацца ў Беларусь музыкант пакуль не збіраецца.**


Фота: ИТАР-ТАСС

Пракуратура не будзе пачынаць крымінальную справу супраць лідэра «Ляпісаў» Сяргея Міхалка з-за адсутнасці ў яго словах крымінальнага ўчынку. Пра гэта гаворыцца ў лісце з пракуратуры Мінска, які атрымала адвакат музыканта.

– Напісана, што паводле вынікаў гэтай праверкі прынятае працэсуальнае рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы з-за адсутнасці грамадска небяспечнага ўчынку, прадугледжанага крымінальным законам, – зачытвае ліст з пракуратуры прэс-сакратар "Ляпісаў" Аляксандр Бергер. – Тут напісана число 22.12.2011 года, але мы атрымалі яго толькі праз месяц.

– Праўда, пакуль Сяргей Міхалок у Беларусь не ездзіў, а калі нават збярэцца, то афішаваць гэтага не будзе, – дадае Бергер.

Нагадаем, у кастрычніку мінулага года Сяргею Міхалку прыйшла павестка ў пракуратуру Цэнтральнага раёна Мінска. Але ў гэты час ён знаходзіўся ў замежным туры і на сустрэчу не прыйшоў.

Пазней следчы патлумачыў, што крымінальная справа не заводзілася, а пракуратура праводзіць праверку па факце выказванняў музыканта на адрас Аляксандра Лукашэнкі, у якіх ён жорстка крытыкаваў кіраўніка Беларусі.

Нагадаем таксама, што ў верасні мінулага года ў відэаінтэрв'ю пасля канцэрта ў Санкт-Пецярбургу лідар забароненага ў Беларусі гурта «Ляпіс Трубяцкой» дазволіў сабе ахарактарызаваць Лукашэнку так, як даўно ўжо ніхто не асмельваўся (гл.: http://www.youtube.com/watch?feature=player_embedded&v=glDa64BRaAQ).

МІХАЛОК ЗАЯВІЎ: «НІЯКІ ЁН НЕ ПРЭЗІДЭНТ — ЧАЛАВЕК, ЯКІ НЕНАВІДЗІЦЬ СВОЙ НАРОД».

Гэтыя словы сталі нібы рэхам выказванняў самога Лукашэнкі пра тое, што «апазіцыя ненавідзіць свой народ». Лукашэнку Міхалок назваў "мярзотным дзеячом, які давёў краіну да краю». (Згадаем «казлоў» і «шалудзівых» самога Лукашэнкі.)

«ЛЮБЫ ЧАЛАВЕК КІРАВАЎ БЫ КРАІНАЙ ЛЕПШ ЗА ЛУКАШЭНКУ», — УПЭЎНЕНЫ МІХАЛОК.

Самае страшнае, мяркуе Міхалок, што Лукашэнка раскалоў нацыю і распальвае пачуццё варожасці да ўсіх нязгодных.

«Я ХАЧУ, КАБ МАЕ ЎНУКІ СВАБОДНА ХАДЗІЛІ ПА РОДНЫМ ГОРАДЗЕ І ГАВАРЫЛІ НА РОДНАЙ МОВЕ, ЧЫТАЛІ ЯНКУ КУПАЛУ І ЯКУБА КОЛАСА», — КАЗАЎ МІХАЛОК.

«Я просты чалавек, не палітык, але цяпер я ведаю, што трэба біцца, у мяне няма іншага выйсця, я адчуваю радасць жыцця ад гэтага», — патлумачыў сваю пазіцыю лідар «Ляпісаў».

Сяргей Міхалок жыве зараз у Расеі, актыўна выступае, збірае на сваіх канцэртах поўныя залі.

У Беларусі «Ляпісы» знаходзяцца ў так званым «чорным спісе». Іх канцэрты зрывалі спецслужбы, забаронена ратацыя іх песняў і на радыёстанцыях.

**Паводле euroradio.fm, nn.by**

# ПРЫВЯДЗІ СЯБРА Ў БІБЛІЯТЭКУ!

**Новая акцыя стартавала ў Берасцейскай абласной бібліятэцы імя М. Горкага. Мэта яе – далучыць да бібліятэкі новых чытачоў, асабліва школьнікаў.**

Акцыю "Прывядзі сябра!" праводзіць аддзел літаратуры для дзяцей і юнакоў, які сёння мае ў Берасці самы вялікі фонд літаратуры для школьнікаў (толькі ў 2011г. тут атрымалі больш за 3600 новых кніг). Натуральна, прыняць удзел могуць не толькі дзеці, але і дарослыя.

Умова акцыі вельмі простая – трэба прывесці з сабой сябра, які запішацца ў бібліятэку. За кожнага новага чытача ўдзельнік атрымае прыемныя бонусы, якія не прадугледжаны правіламі карыстання бібліятэкай. Напрыклад, ён зможа ўзяць з чытальнай залы на некалькі дзён любыя часопісы, аўдыёкніжкі і CD-дыскі.

Самы актыўны ўдзельнік будзе ўзнагароджаны каштоўным кніжным падарункам.

Працягнецца акцыя да 1 красавіка.

**Паводле ZARYA.BY**

## У АЗЕРБАЙДЖАН ВАЛАНЦЁРАМ НА "ЕЎРАБАЧАННЕ"!

**Нацыянальная асамблея моладзевых арганізацый Азербайджана аб'яўляе набор валанцёраў для дапамогі ў арганізацыі конкурса «Еўрабачанне-2012».**

Еўрабачанне – адно са старэйшых тэлевізійных шоу ў свеце, якое адбываецца кожны год ужо на працягу 56 год.

Пасля пяці дзесяткаў год больш за 1 100 песень сталі сучаснай класікай, аказалі моцнае уздзеянне на калектыўную свядомасць Еўропы.

Конкурс «Еўрабачанне-2012» будзе праводзіцца з 22 па 26 траўня 2012 года. Валанцёры павінны будуць прыехаць 20 мая і знаходзіцца ў Баку да 27 траўня.

Арганізатары забяспечваюць валанцёраў жыллем і сняданкам, а таксама грашыма на ўнутраны транспарт. Валанцёры самастойна аплочваюць дарогу да Баку (Азербайджан).

Падаваць заяўкі могуць усе ахвотныя. Каб падаць заяўку, неабходна запоўніць аплікацыйную форму (http://adukacyja.info/files/download/eurovision.doc) і даслаць разам з копіяй пашпарту Хасану Сеідаву (hasan.seyidov@yahoo.com) да 28 лютага 2012.

Сайт праграмы: http://intranet.youthforum.org/newsletters/node/27444

**Паводле adukacyja.info**

## «THE FRAIZ» ПРЭЗЕНТУЕ СВОЙ ДЭБЮТНЫ АЛЬБОМ

**3 сакавіка адзін з самых яскравых берасцейскіх калектываў - «The FraiZ» - прэзентуе свой дэбютны альбом "Paraslov", які складаецца з 14 трэкаў.**




- Мы не збіраліся стварыць атмасферу ўтопіі, наадварот, усё сумленна і адкрыта. Так, часам цяжка, але заўсёды прыходзіць новая раніца, і ў нас ёсць шанец ўсё змяніць – прыкладна ў такім настроі створаны наш дэбютны альбом. Мы шмат заклалі ў яго. Тыя, хто пагрузіцца ў «Paraslov» і змогуць дакапацца да чыннікаў кожнай ноты і акорда, зразумеюць усю яго глыбіню, – распавёў лідар і гітарыст гурта Алег Шарко.

Акрамя прэзентацыі дэбютнага альбома «The FraiZ», у клубе БЭМЗ (вул.Маскоўская, 202) выступіць спецыяльны госць з Магілёва гурт «Akute».

Пачнецца гэтая падзея ў 18.00 гадзін.

Квіткі можна набыць у Гасціным двары (пав.13).

Кошт: 20 000, 25 000 рублёў.

Сустрэча Укантакце: http://vk.com/event34977009

**Вольга ЯРАМЧУК**

# ВЕНЕСУЭЛЬСКИЕ СМИ: «БЕЛЗАРУБЕЖСТРОЙ» – ЭТО МАФИЯ

EL UNIVERSAL

CARACAS, domingo 11 de diciembre, 2011 | Actualizado hace 7 horas

La mafia bielorrusa

En el contrabando de cabillas también participaron empresas importadas. Aunque Caracas y Minsk tienen más de 9.350 kilómetros de distancia, hay bielorrusos señalados en el negocio. Por Joseph Poliszuk

**Громкий скандал разразился в Венесуэле в связи с деятельностью компании «Белзарубежстрой» (БЗС). Местные журналисты подозревают ее в связях с мафией, обвиняют в плохом обращении с рабочими и недобросовестном выполнении работ. «Белорусская мафия» — так называется одна из статей, которые посвятила этой компании венесуэльская газета «Эль Универсаль».**




Автор этой и еще одной публикаций о «Белзарубежстрое» Йозеф Полишук высказывает мнение, что деятельность БЗС в тропической стране стала одной из причин ареста белорусского бизнесмена Виктора Шевцова, возглавлявшего ее правление.

Около четырех лет назад Беларусь обещала построить в Маракае и Каракасе 17 500 квартир, но эти обещания не были выполнены, пишет Полишук на страницах «Эль Универсаль». Вместе с тем, отмечает автор, аналогичные проекты с россиянами и иранцами продвигались успешно.

Следует отметить, что в Венесуэле белорусы строят не сами, а нанимают венесуэльских подрядчиков, которыми руководят через военных переводчиков. Венесуэльцы работают в тяжелых условиях, сталкиваясь с небезопасным трудом, задержкой зарплат и увольнениями. Якобы 29 апреля 2011 года венесуэльские рабочие даже организовали забастовку против несправедливого отношения к ним со стороны БЗС.

СТРОИТЕЛЬСТВО СОПРОВОЖДАЛОСЬ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬЮ ТАК НАЗЫВАЕМОЙ «АРМАТУРНОЙ МАФИИ», КОТОРАЯ ЗАНИМАЛАСЬ КОНТРАБАНДОЙ ЖЕЛЕЗА. ИМЕЛО МЕСТО ХИЩЕНИЕ СТРОЙМАТЕРИАЛОВ, КОТОРОЕ, КАК ПОЛАГАЮТ В ВЕНЕСУЕЛЕ, ПРОИСХОДИЛО НЕ БЕЗ ВЕДОМА РУКОВОДСТВА КОМПАНИИ.

Газета поинтересовалась у представителя БЗС Андрея Атрашкевича, связан ли арест Виктора Шевцова с ситуацией в Венесуэле. Атрашкевич с этим мнением не согласен, он считает, что бизнесмена арестовали в связи с его деятельностью в Ираке.

Венесуэльский журналист отправился в Маракай, чтобы на месте выяснить, как обстоят дела с белорусским строительством. Оказалось, в частности, что 29 декабря прошлого года в городе были сданы под ключ 720 квартир (всего около 4% от проектных 17 500), но с того дня и до 3 января 2012 даже в них не было электричества и канализации! Работы на сданных объектах продолжались и после того, как в них заселились первые жильцы.

На фотографиях, опубликованных «Эль Универсаль», запечатлены неблагоприятные жилищные условия в квартирах Маракая, уже сданных белорусами.

ВИКТОР ШЕВЦОВ БЫЛ ЗНАКОМ НЕ ТОЛЬКО С ПРЕЗИДЕНТОМ ВЕНЕСУЭЛЫ УГО ЧАВЕСОМ, НО И С НЫНЕ ПОКОЙНЫМИ ЛИДЕРАМИ ИРАКА И ЛИВИИ САДДАМОМ ХУСЕЙНОМ И МУАМАРОМ КАДДАФИ.

Среди прочего, он возглавлял Общество белорусско-иракской дружбы, входил в белорусско-ливийскую комиссию по экономическому, торговому и научно-техническому сотрудничеству. «Белзарубежстрой» возглавил в 2007 году. Эта компания «стала держателем основных контрактов по поставкам белорусской техники и оборудования и заказчиком и подрядчиком по всем строительным проектам в Венесуэле — на миллиарды долларов», пишет «Ежедневник».




**Одна из сданных белорусами в Маракае квартир — без воды и электричества**

Виктор Шевцов подозревается в особо крупном хищении. Как сообщалось ранее, в отношении топ-менеджеров ЗАО «Белзарубежстрой» в октябре 2011 года было возбуждено уголовное дело. Следствием проверялась информация о причастности Шевцова к совершению противоправных действий при подготовке и реализации экономических проектов в Венесуэле.

«Основанием для возбуждения уголовного дела послужила информация о его причастности к хищению денежных средств, находившихся на счетах одного из банков. По предварительной оценке следствия, сумма похищенных денежных средств превышает 10 млн. долларов. В отношении Шевцова избрана мера пресечения в виде заключения под стражу и в настоящее время он находится в СИЗО КГБ», — рассказывал в эфире канала «Беларусь 1» заместитель начальника пресс-службы КГБ Артур Стрех.

*Показка з сайта «Нашай Нівы»:*

*— Аляксандр Рыгоравіч, Венесуэла ў шоку ад тых дамоў, якія мы ім збудавалі.*

*— Я жа гаварыл, нужна іці туда, гдзе нас не знают!*

На пресс-конференции в Минске 23 декабря 2011 года Александр Лукашенко заявил, что в случае возмещения государству нанесенного ущерба Виктор Шевцов будет освобожден. «Ущерб нанес государству — деньги на стол в двукратном-трехкратном размере, и пошел. Не заплатит деньги — будет сидеть в тюрьме», — сказал Лукашенко.

Глава государства подчеркнул, что это рядовое экономическое преступление, связанное с выводом денег и правонарушением в связи со строительством объекта в Венесуэле. «Это обычное уголовное дело, у нас таких хватает. Даже есть уголовные дела посерьезнее», — отметил он. Но добавил: «Этот господин не в первый раз попадает в поле зрения правоохранительных органов».

Венесуэла — один из важнейших союзников Беларуси на мировой арене, поэтому скандал с «Белзарубежстроем» лежит не только в экономической, но и в политической плоскости.

naviny.by

# 21 СПОСОБ КАЗАТЬСЯ УМНЕЕ

**Именно “казаться”, а не “быть”, хотя одно другому не мешает. Но сейчас вопрос в том, как произвести впечатление на человека и оставить в его душе неизгладимый след.**

У каждого из нас есть в запасе такие приёмы, благодаря которым мы можем выпутаться из сложной ситуации, избежать ответа на вопрос, отпустить меткий комментарии. Причём сделать всё это с блеском и шиком знающего человека, разбирающегося почти во всех областях современных наук. И самое главное, что вовсе никакой не обман – вы производите впечатление – а это очень важно в современном впечатлительном мире.

Возможно, многое из предложенного для вас уже знакомо, а чем-нибудь вы, возможно, когда-нибудь и воспользуетесь.

1) Тщательно подбирайте слова. Разработчики «Словаря американского культурного наследия» наиболее «умно» звучащими словами называют «олицетворение», «жульничать», «стадный», «панацея» и «небрежный» (epitome, finagle, gregarious, panacea and perfunctory).

2) Дело не только в самих словах, но и в том, как вы их произносите. Директор Колледжа публичной речи Майкл Ронейн говорит: «Чистый, ровный голос – это признак уверенности в себе».

3) Если возникают проблемы с описанным в предыдущем пункте, старайтесь говорить быстрее. «Чем быстрее человек говорит, тем более умным он предстает для публики», – говорит психотерапевт Том Барбер.

4) Старайтесь произвести хорошее первое впечатление. Личный советник Дэн О’Нил говорит: «Люди определяют степень вашего ума по вашему внешнему виду».

5) Заботьтесь о своей внешности. «Привлекательные люди обычно более приспособленны, более популярны и умны», – говорит доктор Лиам Баркер. «Психологи называют это гало-эффект или эффект ореола».




6) Обратите внимание на ваши зубы. По последним исследованиям, люди, которые прошли косметическое лечение у стоматолога, считаются более успешными и умными. «Очень возросло число клиентов, обращающихся к нам перед собеседованиями», – говорит Джеймс Рассел из The London Smile Clinic.

7) Учитесь слушать. «Эмоциональная восприимчивость так же важна, как и IQ», – говорит личный советник Джуд Дженнисон. «Слушайте и задавайте открытые вопросы – как, что и когда».

8 ) Поработайте над своей памятью. «Очень многое из того, что считается умом – это просто способность запоминать», – говорит тренер по знакомствам Девид Уигант.

9) Цените не только красоту, но и ум. Когда вас спрашивают, какие женщины вам нравятся, называйте Найджеллу Лоусон и Хелен Миллер наряду с более очевидными Меган Фокс и Евой Грин.

10) Обращайтесь за помощью. «Попросите кого-нибудь показать вам, как делать что-то. Так вы сможете чему-то учиться», – говорит профессор Роббер Хемпсон, Royal Holloway University of London.

11) Носите фиолетовое. «Фиолетовый – цвет, предполагающий наличие ума. Смешивайте его с серым, это сильный мужской цвет, – чтобы подчеркнуть вашу уверенность и глубокие познания», – говорит специалист по цветовой терапии Джулианн Бьен.

12) Носите очки. Исследование, проведенное в мельбурнском университете исследования зрения, подтвердили взаимосвязь ума и близорукости.

13) Дышите глубоко. Чтобы выглядеть более уверенным, вам нужно «делать глубокие вдохи, чтобы мозг насыщался кислородом», – предлагает специалист по языку тела Пета Флетчер.

14) Будьте уверенны. «Людям нравятся уверенные в себе, потому что они выглядят теми, на кого можно положиться», – говорит исследователь поведения Ли Батлер-Смит.

15) Исправьте осанку. Большая часть нашего общения строится на языке тела. «Если вы сутулитесь, люди могут подумать, что вы ленивый, стеснительный или тупой», – говорит личный советник Ребека Фенсам.

16) Расширяйте кругозор. «Понятие ума подразумевает открытость взглядов», – говорит доктор Кит Френкиш из Открытого Университета. «Не слушайте только тех, с кем вы согласны, читайте разнообразную литературу и выбирайте те книги, которые вы бы не выбрали».

17) Говорите о себе в третьем лице. «Люди не осознают силу, которая в этом заключается», – заявляет комик Майк Бирбилья. «Это превращает все, что ты говоришь, в факт».

18) Сбивайте свою публику двойными отрицаниями. «Объясняете вы им что-либо, или нет, они не посмеют задать вам вопрос, не будете выглядеть неумным в любой ситуации», – говорит специалист по комедии Стив Норт.

19) Говорите, что вы умный. «Если вы будете говорить, что вы умный, о вас так и будут думать. Это называется составление мнения о себе», – говорит психолог Роуз Агдами.

20) Не боритесь с сединой. Все знают, что седина равняется уму, так что не стоит ее закрашивать.

21) Перестаньте ругаться. Психолог Роберта Галлюцио Ричардсон говорит: «Люди находят разговор, приправленный крепкими словечками, менее значимым».

**Ліндзіра**

# БЕЛАРУСЬ: УСЁ ПРА ЎСЁ!

**“Дзедзіч” працягвае знаёміць берасцейцаў з гісторыяй і культурай нашай Бацькаўшчыны праз віктарыны. Толькі цяпер дзедзічы выйшлі па-за межы інтэрнэта і пайшлі з конкурсамі да школьнікаў.**

Першая віктарына пад назвай “Беларусь: усё пра ўсё!” была праведзена ў сярэдняй школе № 18 г. Берасця. Паўдзельнічаць у ёй давялося школьнікам старэйшых класаў, якія паказалі свае веды з лепшага боку. Адказы на пытанні па гісторыі і геаграфіі Беларусі знаходзіліся імгненна, менш лёгка даваліся заданні па культуры і мове, але і гэтыя цяжкасці былі пераадоленыя.

У выніку, пераможцамі віктарыны сталі 2 чалавекі: Надзея Кавальчук і Аляксандр Брынчук, з чым іх і віншуем! Яны атрымалі файныя вялікія сшыткі з беларускімі нацыянальнымі ўзорамі.

АРР “Дзедзіч” плануе і надалей несці веды ў масы і зазірнуць са сваімі конкурсамі і падарункамі яшчэ ў некалькі школаў.

**Ліндзіра**



# ПРЫДВОРНЫ АРХІТЭКТАР

## ЯН САМУЭЛЬ БЭКЕР – АРХІТЭКТАР ПАЛАЦАВА-ПАРКАВАГА КОМПЛЕКСУ САПЕГАЎ У РУЖАНАХ





**Адрэстаўраваны герб рода Сапегаў (з "Пагоняй"!) над уязной брамай ружанскага палаца. 2011г.**

**Да сённяшняга дня толькі самы лянівы беларус не здолеў наведаць так званы беларускі Версаль – рэзідэнцыю Сапегаў у Ружанах. А між тым, лёс гэтага волата не такі просты, як можа падацца адразу.**

Упершыню Сапегі набылі мястэчка Рожану (суч. Ружаны) у самым канцы 16 стагоддзя. Першапачаткова ніякага палаца ці замка на гэтым месцы не было. Першую пабудову палацу даследчыкі адносяць да 1605 года і звязваюць яе з дзейнасцю фларэнтыйскага архітэктара Санці Гучы.

Новы палац хутка здабыў сабе вядомасць і славу. Менавіта адсюль рушыў да Масквы каралевіч Уладзіслаў, які пазней, ужо каралём, наведваў у Ружанах састарэлага Льва Сапегу. Тады ён гасціў у Сапегаў з жонкай і цэлым дваром.

У 1648-1649 гадах адбылася перабудова палаца не менш знакамітым італьянскім архітэктарам Джанбатыстам Джыслені. Аднак стогадовы росквіт сядзібы змяніўся на поўны заняпад за крывавае 17 стагоддзе – спачатку канфедэраты і шведы, потым Паўночная вайна спустошылі і маёнтак, і мястэчка.

Пасля жудаснага часу разбуральных войнаў палац аднаўляе ў 1748-1750 гг. прадстаўнік дрэздэнскай школы Ян Зыгмунт Дэйбль, адзін з лепшых каралеўскіх архітэктараў.

Але неўзабаве мастак у 1752 годзе памірае, і прыдворным архітэктарам Сапегаў становіцца лепшы ягоны вучань – Ян Самуэль Бэкер.

З творчасцю Бэкера звязаная рэканструкцыя палаца, размаху якой не было роўных у Ружанах. Грандыёзная перабудова з асаблівай раскошай і бляскам павінна была сімвалізаваць знакамітасць і важнасць роду Сапегаў. "Беларускі Версаль" – так называлі новы палацава-паркавы ансамбль архітэктара Бэкера. Менавіта ў бэкеравы палац прыязджаў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, менавіта «бэкеравы» праект мы можам зараз бачыць на ўласныя вочы.

Само з'яўленне ў Рэчы Паспалітай саксонскіх майстраў не было выпадковасцю. Гэтаму спрыялі геапалітычныя і міжнародныя абставіны тагачаснай Еўропы – у першай палове 18 стагоддзя каралеўская ўлада ў Рэчы Паспалітай належала саксонскім курфюстам Аўгусту II і Аўгусту III, да таго ж падчас Сямігадовай вайны (1756-1762) у Варшаву пераехаў увесь дрэздэнскі двор – адсюль значны прыток саксонцаў у Дзяржаве абодвух народаў. Праз замежных майстроў наша культура ўзбагачалася вопытам якаснага еўрапейскага сядзібнага дойлідства ды паркавага мастацва.

Яшчэ адным чыннікам масшабнай дзейнасці Бэкера з'яўляюцца асобы ягоных патронаў – Аляксандра і Магдалены Сапегаў, тагачасных уладальнікаў Ружан. Гэтыя творчыя і таленавітыя людзі былі заўзятымі тэатраламі, самі мелі некалькі прыдворных тэатраў, збудаваных Янам Самуэлем, збіралі кнігі, захапляліся музыкай і літаратурай. Менавіта яны стварылі спрыяльныя ўмовы для творчасці маладога саксонца.

Пра асабістае жыццё Бэкера існуе не шмат дадзеных, частка з якіх носіць ускосны характар. Многія рэчы суадносяць з жыццём стылістычна блізкіх да творчасці Бэкера архітэктараў.

Паводле гэтых дадзеных, Ян Самуэль нарадзіўся на пачатку 1730-х гадоў у Саксоніі. Магчыма, навучаўся ў знакамітай майстэрні дрэздэнскага архітэктара Я.К.Кнофеля, пасля якой быў прыняты да Саксонскага Будаўнічага Дэпартаменту.



**Макет Ружанскага палаца экспануецца ў адноўленым флігеле палаца. 2011г. Фота: Zrebak Trojanski**

У сяр. 50-х – пач. 60-х гадоў 18 ст. Бэкер з'явіўся ў Беларусі. З актавых запісаў ружанскага касцёла вядома, што Бэкер быў "некаталіком", што падцвярждае ягонае саксонскае паходжанне. З гэтых актаў вядомы і некаторыя родныя архітэктара: Яанна Фрэдэрыка Бэкерава, жонка, ды Рахель, магчыма, дачка.

Згодна Інвентару 1793 года вядома, што за Бэкерам лічыўся аднапавярховы драўляны дом над Каналам. Касцёльныя запісы сцвярджаюць, што па 1808 год архітэктар знаходзіўся ў Ружанах, а ружанскі "Рэестр аплаты" да 1810 года ўключна выплочваў Бэкеру пенсію. Паколькі апошнія выплаты зроблены ў Менску, можна сцвярджаць, што Ян Самуэль Бэкер да канца жыцця заставаўся на нашай беларускай зямлі, а памер і пахаваны, магчыма, у Менску.

Жыццё і творчасць Бэкера даследавана зусім мала. У беларускай літаратуры ён падаецца маргінальным, "звычайным" архітэктарам класіцызму, а творчасць вывучаецца і падаецца большасцю па матэрыялах Ружанаў. Між тым захаваліся бэкеравы праекты не толькі для Ружан, але і для іншых сапегаўскіх уладанняў: у Вільні, Высокім, Дзярэчыне, Крыстыянпалі.

Ян Самуэль Бэкер - неардынарны майстар, правадыр еўрапейскасці на Беларусь. Дзякуючы яму палацава-паркавае мастацтва на Беларусі дасягнула якаснага еўрапейскага ўзроўню, а ягоныя творы сталі ўзорным прыкладам беларускага класіцызму. Праз талент саксонца беларусы не забыліся пра сваю еўрапейскасць нават у складзе Расейскай імперыі.

Вывучаць творчасць такіх "суайчыннікаў" проста неабходна, асабліва зараз, калі Беларусь стаіць на перакрыжаванні шляхоў да будучыні, каб абраць гістарычна верную дарогу, каб не забыцца на свае еўрапейскія карані. Умець правільна расставіць акцэнты ў сваёй гісторыі – важная справа для кожнага грамадства.

Нам пашчасціла мець у сваім слаўным мінулым выбітны прыклад спалучэння таленту і розуму, здольнасцяў і ўпартасці, прыгажосці ды ведаў. Жыццё Бэкера паказвае, што не толькі беларусы могуць быць карыснымі свету, але і свет карысны беларусам, не толькі Беларусь можа быць у Еўропе, але і Еўропа ў Беларусі.

**Ірына МАРОЗ**

**На фота ўверсе: адрэстаўраваныя часткі палаца - уязная брама і абодва флігелі. Фота: Глеб Лабадзенка**

# ЭЛЕКТРОННЫЯ ЦЫГАРЭТЫ У БЕРАСЦІ

**Цыгарэты даражэюць. І будуць працягваць даражэць далей. Для тых, хто не ўстане кінуць паленне нават пад уплывам эканамічных фактараў, прапануецца электронная альтэрнатыва, якая нядаўна пачала прадавацца і ў Берасці.**




### «ДЫМ ЦЫГАРЭТ З МЯНТОЛАМ ...»

Напяваючы першы радок з легендарнай песні, уяўляеш сабе шыкоўную даму, якая трымае доўгую жаночую цыгарэту і з задавальненнем зацягваецца. Але нікому і ў галаву не прыйдзе, што галоўны герой песні - забойца.

За акном 2012г., і ўжо ні для каго не сакрэт, што тытунёвы дым змяшчае мноства шкодных і смяротных рэчываў. І тысячы людзей па ўсім свеце штогод паміраюць ад хвароб, выкліканых курэннем тытуню. Аднак вы штодня працягваеце паліць і верным шляхам ідзеце да самазнішчэння. Задумайцеся! І вырашыце! Ці варта аддаваць у нікуды самае бясцэннае, што ёсць у чалавека, – яго здароўе. Тыя, хто вырашыў змагацца з паленнем, спрабуюць дзесяткі спосабаў, каб пазбавіцца ад шкоднай звычкі. Я адважуся прапанаваць яшчэ адзін. І, на мой погляд, гэты спосаб рэальна эфектыўны.

У альтэрнатыву звычайным цыгарэтам з фільтрам былі вынайдзеныя электронныя цыгарэты. У 2004г. у горадзе Ганконг вынаходнік Хон Лік прыдумаў электронную цыгарэту. Гэта прылада для імітацыі палення тытуню шляхам генерацыі пару, які можа ўтрымоўваць нікацін. Пар мае выгляд і пры ўдыханні выклікае смакавыя адчуванні тытунёвага дыму.

У асноўны склад вадкасці для запраўкі электронных цыгарэт ўваходзіць:

- прапіленгліколь 55-62% – дадатак Е1520 (прапіленгліколь) дазволены для выкарыстання ў большасці краін свету;
- гліцэрын 30-35% – гліцэрын. Выкарыстоўваецца як харчовы дадатак Е422 у вытворчасці кандытарскіх вырабаў для паляпшэння кансістэнцыі, для прадухілення прасядання шакаладу, павелічэння аб'ёму хлеба;
- нікацін 0 - 3,6% (па жаданні);
- араматызатар 2-4%;
- вада.

Меркаванні аб электронных цыгарэтах розныя. Хтосьці кажа, што гэта шкодна, а хтосьці абедзвюма рукамі за электронныя цыгарэты як альтэрнатыву паленню тытуню. Асабіста я ведаю людзей, якія палілі па некалькі гадоў запар. Прычым палілі шмат. А са з'яўленнем электроннай цыгарэты назаўжды адмовіліся ад тытуню.

Электронную цыгарэту можна паліць дзе заўгодна – дома, на працы, у гасцях або на вечарыне. Яна не мае прадуктаў гарэння і попелу. Але ў той жа час «дым» (пар) ад электроннай цыгарэты такі ж густы, і па колеру нагадвае дым звычайных цыгарэт. Няма абсалютна ніякага непрыемнага паху, як у памяшканні, так і непасрэдна ад чалавека, які паліць.

І самае галоўнае! Няма эфекту пасіўнага курэння! Навакольным людзям вы не наробіце шкоды.

Гэта прылада непераборлівая ў абслугоўванні. Працуе ад акумулятара, які можна зараджаць альбо аўтаномна, альбо ад USB-раз'ёму ў вашым ноўтбуку ці кампутары. Зарадкі хапае на 1-3 дні, усё залежыць ад інтэнсіўнасці палення. Асноўным расходнікам з'яўляецца араматычная вадкасць, якой запраўляецца картрыдж электроннай цыгарэты. Існуюць дзясяткі розных водараў.

Купіць электронныя цыгарэты вы можаце і ў Берасці на сайце NEKURI.BY.

**Паводле realbrest.by**




# 1.000.000 ІМКНЕННЯЎ ДА ЗДАРОЎЯ Ў БЕРАСЦІ!

**На сайце сацыяльнага блога "Вменяемый Брест" (voicenet.blog.tut.by), які вядзе вядомы актывіст Алег Голас, з'явіўся заклік да берасцейцаў праявіць сваё імкненне да здаровага ладу жыцця, не пакідаючы дому.**

Блог прапануе ўсім ахвотным прыняць удзел у калектыўным адцісканні і паказаць усяму свету, на што здатныя берасцейцы ў сваім імкненні да здаровага ладу жыцця.

Свае дасягненні ў галіне адцісканняў прапануецца фіксаваць у суполцы "Вменяемого Бреста" ў "Укантакце" (http://vkontakte.ru/club10933813), дадаючы свой вынік да агульнага выніку ўсіх ўдзельнікаў і тым самым разам дасягаючы запаветнага мільёна.

Ідэя разлічана на тое, што людзі сумленна будуць адносіцца да свайго ўдзелу. Але існуе і сістэма праверак. Хлопцу, які па некалькі разоў удзень плюсаваў па сто адцісканняў адразу, прапанавалі зняць на відэа свае дасягненні, каб пераканаць тых, хто сумняваўся. І ён зрабіў гэта, адначасова дэманструючы розныя тэхнікі выканання адцісканняў.

Адважная ідэя была падтрымана наведвальнікамі блога і сацыяльнай сеткі, таму ажыццяўленне гэтай задумкі хутчэй за ўсё будзе толькі пытаннем часу. Тым больш што ініцыятыва з не меншым энтузіязмам была падтрымана не толькі хлопцамі, але і дзяўчынамі.

Не заставайцеся ўбаку! Далучайцеся!

Схема простая: адціскаецеся, заходзіце сюды: vk.com/topic-10933813_26070843 і папаўняеце агульную скарбонку сваімі дасягненнямі! Актыўных удзельнікаў чакаюць заахвочванні!



Свой унёсак у агульную скарбонку ўжо зрабілі больш за сто чалавек, якія назбіралі разам больш за 35000 адцісканняў!

"Только давайте по-чесноку! По ПРАВИ! Потому как, помимо себя, никого более не обманете", © Алег Голас.

**ЛІНДЗІРА**

# СБОР ПОДПИСЕЙ

## КАК МЕТОД ЗАЩИТЫ ПРАВ СТУДЕНТОВ

**Жизнь студентов разнообразна и порой непредсказуема. Бывает, что мы сталкиваемся с проблемами, которые самостоятельно решить не в состоянии, и нам приходится обращаться к различным людям или органам с просьбой их решить. Как метод обращения можно использовать сбор подписей.**

**ЧТО ВООБЩЕ ТАКОЕ «СБОР ПОДПИСЕЙ»?**

Ты наверняка встречался со сбором подписей в предвыборный период, когда люди собирают подписи за выдвижение того или иного кандидата. В этой статье мы будем говорить о похожем сборе подписей.

В целом, сбор подписей – это процедура обращения группы лиц, имеющих некий общий интерес, к какому-либо лицу или органу, способному повлиять на удовлетворение их интереса. Аналогом сбора подписей является, например, петиция, принятая на собрании коллектива. Таким образом, ключевыми особенностями для сбора подписей является (а) обращение не одного, а нескольких людей/организаций с (б) конкретным требованием/просьбой, (в) выраженное в форме документа (бумажного или электронного).

**А СБОР ПОДПИСЕЙ ТОЧНО ПОМОЖЕТ?**

Сбор подписей - это не 100% эффективный способ решения проблем. В различных ситуациях он имеет различные результаты. Но если сбор подписей использовать правильно, то у тебя есть большие шансы добиться того, чего ты хочешь.

Сбор подписей можно условно разделить на 3 этапа: составление формы для сбора, непосредственно сбор подписей и передача собранных подписей лицу/органу, к которому вы обращаетесь.

Ниже приведем инструкции по сбору подписей.

**ЭТАП 1: СОСТАВЛЕНИЕ ФОРМЫ ДЛЯ СБОРА ПОДПИСЕЙ**

1) Берем чистый лист бумаги А4, в верхнем правом углу пишем, к кому мы обращаемся (должность и ФИО). Например: «Декану исторического факультета Белорусского государственного университета Ходину Сергею Николаевичу». Если ты не знаешь ФИО человека, но знаешь должность или название органа, то можно указывать только эту информацию. Ниже пишем «от кого» вы обращаетесь (например, «студентов дневной формы обучения исторического факультета»). Слово «от» можно не писать.

Важно! Перед тем как начать составлять форму, необходимо достоверно узнать, к какому именно лицу нужно обращаться, чтобы твой вопрос был решен. Может получиться так, что ты собираешь тысячу подписей с очень важным обращением, но они будут адресованы лицу, который никак не может повлиять на решение этого вопроса, и титанический труд пройдет впустую.

2) Затем посередине листа напиши «Обращение». В зависимости от содержания документа также можно писать «Жалоба», «Заявление» и т.д.

3) С новой строчки напиши вводное обращение и в одно-два предложения сформулируй свою просьбу. Здесь не стоит описывать обстоятельства и причины своей просьбы. Например, это может выглядеть так: «Мы, нижеподписавшиеся студенты, просим Вас содействовать в установке на прилегающей территории велосипедной стоянки».

4) С новой строчки пишем обстоятельства, причины просьбы и приводим аргументы, которые убедят лицо, принимающее решение, что надо решить ситуацию так, как ты предлагаешь. По возможности, указывай конкретные факты («…69% утверждают, что будут использовать велосипед для передвижения до места учебы, если будет установлена велосипедная стоянка…»).

Важно! Перед тем как писать эту часть формы, постарайся узнать противоположную позицию по этому вопросу (например, если ты собираешь подписи за замену неадекватного преподавателя, узнай, как он аргументирует свое поведение) – это поможет тебе приводить более сильные аргументы.

Найди и прочитай нормативную документацию, имеющую отношение к твоему вопросу. Ссылки на нормативные акты являются вескими аргументами.

5) С новой строчки напиши «На основании вышеизложенного, просим:…» и далее укажи конкретные действия. В отличие от того, что ты писал в п.3, тут необходимо расписать по действиям свою просьбу. Например: «… выделить средства из бюджета факультета на приобретение металлоконструкций для велосипедной стоянки на 30 мест; определить место на прилегающей территории для размещения велосипедной стоянки; приобрести и установить на выделенном месте металлоконструкцию для велосипедной стоянки к 15.09.2012г».

6) Далее с новой строчки укажи, как ты хочешь, чтобы вас (подписавшихся) проинформировали о принятом решении. Если собираешь подписи по всему вузу, можно указать такие формы: вывесить решение на доске информации, провести собрание с подписавшимися под обращением и огласить решение, опубликовать решение в университетской газете и т.п.

7) Если у тебя имеются какие-либо документы, подтверждающие твои аргументы и факты, размести их в приложении. Для этого с новой строчки напиши, например, «Приложение 1 – Полные результаты опроса студентов исторического факультета». Занеси в форму для сбора подписей все названия приложений, которые ты прикладываешь к основному обращению.

8) И, наконец, ниже чертим таблицу для сбора подписей. В таблице в зависимости от ситуации могут быть различные графы, но обязательно необходимо указывать: фамилию и имя, дату, подпись. Если ты собираешь подписи в вузе и обращаешься к должностному лицу этого вуза, то еще рекомендуется указывать группу и факультет. Для удобства проставляйте номера подписантов. Ниже располагаются пустые поля, куда будут вписывать свою информацию подписанты.

**ЭТАП 2: СБОР ПОДПИСЕЙ**

После составления формы для сбора подписей и ее тиражирования начинается непосредственный сбор подписей:

• Найди себе соратников – собирать подписи группой проще, чем одному. Это быстрее, у людей больше доверия, если они видят, что подписи собирает несколько человек.

• Не нужно собирать подписи «подпольно», так, чтобы никто не видел. Делай это открыто и спокойно – ты не делаешь ничего противозаконного.

• Чем больше, тем лучше! Перед началом сбора подписей следует определить, сколько подписей ты планируешь собрать. В основном это зависит от масштаба проблемы. Если необходимо заменить преподавателя – желательно, чтобы подписи поставила как минимум вся группа (или поток), если хочешь установить велостоянку – желательно собрать подписи у всех желающих пользоваться этой велостоянкой.

• Достаточно эффективно можно собирать подписи на перерыве в аудитории, когда пускаешь форму «по рукам» и, кто хочет, тот подписывается. Перед этим лучше рассказать всем о сборе подписей и попросить поддержать своей подписью. Главное, не потеряй лист из виду, а то можно его и не найти :).

• Включи свой креатив! Гораздо более запоминающимся будет сбор подписей в интересной и необычной форме. Например, можно ярко и красочно оформить стол, поставить его в коридоре и за ним собирать подписи. Помни, что креатива должно быть в меру, так как администрации что-то может не понравиться и добиться положительного результата будет сложнее.

• Главное – убедить людей! Первое, с чем ты встретишься при сборе подписей – это боязнь людей.

В основном люди боятся подписаться, потому что думают, что их за это кто-то накажет. Некоторые скрывают боязнь под маской безразличия. А некоторым действительно, как говорится, «по барабану». Твоя главная задача - убедить людей, у которых ты собираешь подписи, что никто их за это не накажет, и ты обязательно добьешься результата.

**ЭТАП 3: ПЕРЕДАЧА ПОДПИСЕЙ**

В зависимости от ситуации, подписи могут быть переданы двумя вариантами: лично либо по почте.

Если подписи подаются лично:

• Для начала нужно определить план действий. События могут разворачиваться минимум по двум сценариям: 1) просто передать подписи и ждать решения, 2) вести переговоры во время подачи подписей. У каждой стратегии есть свои плюсы и минусы. Ты должен выбрать ее в соответствии со своей ситуацией.

• Необходимо определиться, сколько и какие люди пойдут относить подписи. В любом случае это должны быть понимающие ситуацию люди, так как человек, принимающий подписи, может задать какие-либо вопросы.

• Человек, который пойдет относить подписи, должен быть уверен в себе, ничего не бояться, разбираться в вопросе. Помни, что все, что ты делаешь – законно и ты имеешь полное право это делать.

• При подаче подписей постарайся зафиксировать их передачу в журнале входящей корреспонденции. Проследи, чтобы секретарь сделал заметку в этом журнале при тебе. Это гарантирует, что ты получишь ответ в письменном виде, так как этот случай подпадает под категорию «обращения граждан».

Если подписи отправляются по почте:

• Обязательно посылай заказными письмами с уведомлением. Некоторые неугодные письма имеют свойство иногда теряться. Посылать заказные письма дороже, но это дает почти 100% шанс, что они будут доставлены по адресу.

**ЗАКЛЮЧЕНИЕ**

Сбор подписей – не популярный среди студенчества метод защиты своих прав или интересов, но достаточно эффективный. Администрации, преподаватели и государственные органы относятся к этому как к чему-то необычному. Однако ты сам должен понимать, что сбор подписей это правовой, действенный и адекватный метод защиты и продвижения твоих интересов.

Людям, у которых ты собираешь подписи, действительно ничего не угрожает, если ты собираешь «за правое дело». Вся «тяжесть вины», если что, свалится на инициаторов сбора подписей. Но как показывает практика, все, что «светит» этим сборщикам – неудобный разговор с представителем администрации вуза.

Из опыта деятельности «Студэнцкай Рады» ни один человек не получил даже замечания за сбор подписей.

Так что не бойся, успех ждет тебя!

Если у тебя возникнут какие-либо вопросы по любому этапу сбора подписей, обращайся к нам, мы рады будем помочь тебе! Пример листа для сбора подписей можно найти на сайте studrada.org в разделе «Библиотека».

studrada.org

## ДАРЭЧЫ

Журналісты пытаюць у фермера:
- Скажыце, як у вас прайшоў год.
- Не паверыце, выдатна. Ураджай збожжа добры - без хлеба не застануся, бульбачка ўрадзіла – ізноў такі буду не галодны, а яшчэ свіння апарасілася.
- Ці не хацелі б вы падзякаваць за гэта прэзідэнту?
- Ды з чаго ж? Араў сам, сеяў сам, гадаваў і збіраў сам - у чым тут яго заслуга?
- Як так? (жорстка) А вы падумайце!
- А, ну, калі падумаць, то наконт свінні не адмаўляю, тут усяляк магло быць.

***

Зіма. Мароз -20. Еду з жонкай у аўтобусе. Насупраць - мая студэнтка (я выкладчык у ВНУ) з нейкай сяброўкай. Не вітаецца. Сядзіць, балбоча. Хвілін праз пяць глядзіць на мяне і кажа:
- Ой! Андрэй Пятровіч! А я вас апранутым не пазнала!

***

Жонка адпраўляе мужа ў аптэку за прэзерватывамі:
- Дарэчы, заадно купі мне дзве піпеткі.
Муж вяртаецца ў шаленстве:
- Я больш ніколі не пайду ў аптэку!
- Чаму?
- Я ў прадаўшчыцы пытаю два прэзерватыва. Яна кажа: «Прэзерватывы скончыліся». Я кажу: «Тады дайце мне дзве піпеткі». Калі б ты толькі чула, як яна рагатала!

***

Ідэальны муж - гэта той, які своечасова прыходзіць дахаты, купляе прадукты, гатуе ежу, мые посуд, прыбірае кватэру, займаецца з дзецьмі...
Выснова: ідэальны муж – гэта жонка.

***

Не зацыкляйцеся толькі на працы і кар'еры. Яшчэ ніводзін чалавек, паміраючы, не сказаў: «Шкада, што я так мала часу праводзіў на працы».

***

Саша хвалюецца раз, Віця хвалюецца два, Дзіма хвалюецца тры, Іра ідзе на УЗІ.

***

- У мяне сын у Маскву паехаў.
- І як? Працуе?
- Хірургам працуе. Вось праца. Рэжа маскалёў, а яму яшчэ за гэта грошы даюць.

***

Спаборніцтва паміж ЗША, Вялікабрытаніяй і Беларуссю, хто хутчэй труса схопіць.
Пусцілі труса, той пабег... Рванулі за ім амерыканскія марпехі, праз гадзіну прынеслі за вушы.
Другім быў ангельскі спецназ, схапілі за 40 хвілінаў.
Падышла чарга беларусаў. Прыйшлі два амапаўцы. Суддзі здзівіліся, маўляў вы ўдвух не справіцеся... Тыя ў адзін голас: «фігня»! Праз сем хвілін выводзяць мядзведзя ў кайданках. Мядзведзь:
— Я трусік, дзе распісвацца?

***

Хлопчык, які вучыўся цалавацца на памідорах, па звычцы з'еў аднакласніцу...

***

Размаўляць з незнаёмым чалавекам цікавей. Знаёмыя ўжо ведаюць, што ты ідыёт.

***

Хопіць! Хопіць, бл...! - крычала бландынка ў маршрутцы, забыўшыся слова СПЫНІЦЕ!

Падыходжу да аўтастаянкі і вачам не веру - бландынка залівае масла ў рухавік! Падыходжу бліжэй - не, усё ў парадку - залівае ў бачок амываццеля.

***

У судзе справа пра згвалтаванне прыбіральшчыцы.
- Абвінавачаны, што вы можаце сказаць у сваю абарону?
- Ну што? Была справа, прыціснуў я Дусю. Але ж яна ані слова супраць не сказала, ні руху якога, нават сысці не паспрабавала.
- Пацярпелая, гэта праўда?!
- Дык а куды я магла ісці?! Ззаду ён, а наперадзе ўжо памыта!

***

Пасля караблекрушэння на незаселеную выспу патрапіў малады юнак. За пяць гадоў самотнага жыцця і барацьбы з адзінотай і стыхіяй ёнператварыўся ў стройнага мускулістага хлопца. Разам з выратавальнай экспедыцыяй прыбыла сімпатычная журналістка.
Распытаўшы выратаванага пра тое, дзе ён жыў, як лавіў рыбу і звяроў, як капаў карані, журналістка, счырванеўшы, пытае:
- А сэксам Вы як займаліся?
Хлопец павёў яе да дрэва і паказаў дупло на ўзроўні пояса, абкладзенае пластом моху.
Журналістка затоена пытае:
- А са мной Вы не жадалі б паспрабаваць?
- Вядома, жадаю!
Журналістка распранаецца, нахіляецца.
Хлопец з усёй моцы б'е яе ззаду нагой.
- Ты, што? Здурнеў?!
- А раптам ТАМ вавёрка!

***

- Класная ты, калі вып'еш.
- І ты класны, калі я вып'ю.

***

А на мінулы Новы год да нас праз трубу зноў залез Дзед Мароз. Але тут нечакана з камандзіроўкі вярнуўся тата. У той год мне дастаўся ўвесь мяшок з падарункамі - пакунак цукерак, тры бутэлькі шампанскага і пачак нязручных паветраных шарыкаў.

***

31 снежня. Мужык ставіць табурэтку і накідвае вяроўку на люстру. Раптам расчыняюцца дзверы і ўвальваецца п'яны Дзед Мароз. Плюхаецца на канапу, глядзіць на няшчаснага мужыка і пытае:
- Чаго гэты ты там робіш?
- Ды жыццё - кашмар, не магу я больш, надакучыла!!! Вырашыў вось…
Дзед Мароз кажа:
- Ну-у-у... Калі ты ўсё адно на табурэтцы, распавядзі хоць вершык...

***

Бландынка на іншамарцы не саступае дарогу на адпаведны знак і ўразаецца ў іншую машыну. З яе выходзіць кіроўца і сумна пытае:
- Дзяўчына, вы на правы хоць іспыт здавалі?
- Так! І ў адрозненне ад цябе – шмат разоў, КАЗЁЛ!

***

Два жыды з'ехалі з Расеі - адзін у Ізраіль, другі ў Нямеччыну. Праз год яны стэлефанаваліся:
- Ізя! Ты не ўяўляеш, як мне пашанцавала. Я жыву ў Хайфе, у мяне свая крама, тут усе нашы, надвор'е выдатнае! Я шчаслівы!
- Абраша! А як пашанцавала мне! Я жыву ў Мюнхене, працую ў мясцовым крэматорыі. Ты не паверыш - Я СПАЛЬВАЮ НЕМЦАЎ!

Купіў ровар японскі. Катацца нязручна, руль справа.

***

Кудрына звольнілі за тое, што ён не будзе працаваць ва ўрадзе Мядзведзева, якога прызначыць прэм'ерам Пуцін, якога абяруць людзі на выбарах у 2012г. Такой упэўненасці ў заўтрашнім дні ў Расеі ніколі не было.

***

Футбольны арбітр выпадкова замест карткі паказаў гульцу прэзерватыў. Да канца матчу больш ніхто не рызыкнуў парушыць правілы.

***

У чаканні гасцей Рабіновіч папярэджвае жонку:
- Святочны сервіз можаш паставіць на стол, а срэбныя лыжачкі не падавай.
- Яша, няўжо ты думаеш, што госці могуць іх скрасці?
- Не, Сара, я такі думаю, што іх могуць пазнаць.

***

Беларуская сям'я дома. Сын у пакоі, мама на кухні. Сын:
- Эканоміка ў задніцы. Яна трымаецца толькі на халяўных грошах, паток якіх няўхільна памяншаецца. Краіна даўно нічога не вырабляе, акрамя пантоў. Усеагульнае падзенне маралі ў насельніцтва. Чытаць кнігі лічыцца нямодным. Мужчыны, жанчыны і нават дзеці п'юць, паляць і беспарадкава трахаюцца. Кіраўнік зажраўся. Ён даўно адарваўся ад рэальнасці і верыць у сваю падобнасць да бога. Пастаянныя і нікому не патрэбныя правакацыі і сваркі з усімі суседзямі. Азвярэлыя сілавікі даўно не здольныя абараніць краіну, затое рэгулярна рабуюць уласных грамадзян...
- Сынок, хопіць чытаць газеты. Ідзі вучыць урокі.
- Дык я і вучу. Нам задалі тэму пра заняпад і падзенне Рымскай імперыі.

***

Да дырэктара цырка прыходзіць жанчына - маленькая, худзенькая, у акулярчыках. Кажа:
- Я хачу быць у вас дрэсіроўшчыцай тыграў!
Дырэктар, стрымліваючы ўсмешку:
- Ну, вось бачыце, там, у клетцы, тыгры разгуляліся. Ідзіце, супакойце.
Жанчына спакойна ўваходзіць у клетку і як закрычыць аглушальна:
- А НУ, ІСТОТЫ, СУПАКОІЛІСЯ!!!
Тыгры ажно прыселі ад нечаканасці, адзін нават абмачыўся. Афігеўшы, дырэктар пытае:
- Вы і на мінулай працы так...
- Так, але яшчэ сёе-тое дадавала.
- Што?
- Сёмы «Б».

***

Ранішняе шыхтаванне ў войску. Хмурны погляд ротнага прыдзірліва аглядае шыхт маладога папаўнення. І тут яго погляд спыняецца на нававбранцы без папругі.
- Таварыш салдат. Дзе ваша папруга?
Салдат відавочна з інтэлігентнай сям'і, але ўжо паволі распачаў засвойваць тонкасці армейскага лексікону. Рапартуе:
- Таварыш маёр. Спі..лі.
- У войску няма слова «спі...лі», - адказвае ротны.
І салдат пачынае паступова ад вяснушак да вушэй чырванець, разумеючы, што такой бесцырымоннай фармулёўкай зачапіў тонкую духоўную арганізацыю камандзіра.
Але наступная фраза ротнага ўсё расставіла па месцах.
- У войску ёсць слова «прая%аў».

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 21.02.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Агіевіч, П. Белавус, П. Дайлід, Г. Когаць, К. Шэлест. **Адказны за выпуск:** Альбіна ТРУС.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў

**№2(71) • ЛЮТЫ 2012**